PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 29 (1888) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 19 ЛІПЕНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З УСХОДАМ - З ДАПАМОГАЙ „БІЗНЕС-КЛУБА"

Грамадска-палітычныя змены ў краінах рэальнага сацыялізма ў 1989-90 г.г. давялі амаль да поўнага развалу эканамічных сувязяў між імі. Пацярпелі ад гэтага гаспадаркі ўсіх дзяржаў, і тых незалежных ужо раней, і тых, што ўзніклі на руінах Савецкага Саюза. Цяпер розныя асобы і ўстановы стараюцца нанава, адкідваючы палітычны аспект справы, ладзіць парваныя сувязі, шукаць новыя спосабы эканамічнага супрацоўніцтва.

Адной з такіх ініцыятыў - пазаўрадавай, што падкрэсліваецца арганізатарамі, - з'яўляецца утвораны ў верасні 1991 года ў Расейскім /раней: савецкім/ асяродку культуры і інфармацыі ў Варшаве «Бізнес-клуб». Гэта свайго роду цэнтр гаспадарчай інфармацыі пра Беларусь, Расею, Украіну ды іншыя ўсходнія дзяржавы, былыя рэспублікі СССР. Гуртуе ён гаспадарчыя суб'екты /ужо каля 300/ усіх сектараў - прыватнага, кааператыўнага і дзяржаўнага, - зацікаўленыя супрацоўніцтвам з Усходам. Прычым, у полі зроку клуба, з увагі на фізічныя магчымасці, толькі еўрапейская частка СНД і Прыбалтыка.



*СУСТРЭЧА У „БІЗНЕС-КЛУБЕ".*
*Фота М. Ваўранюка.*

Кіраўніцтва «Бізнес-клуба» рэкламуецца знаёмасцю новых эканамічна-юрыдычных законаў на ўсходнім рынку ды сітуацыі паасобных дзяржаў, вобласцяў, гарадоў, прадпрыемстваў, суполак і, урэшце, прыватных асоб, у аспекце супрацоўніцтва з замежжам. «Бізнес-клуб» дапамагае наладзіць гаспадарчы кантакт, арганізаваць суполкі «joint-venture» ў Польшчы і ў СНД. Можа вывучыць усюды там, дзе аднаму прадпрымальніку, адной суполцы ці фірме інфармацыю здабываць было б не пад сілу.

Старшыня «Бізнес-клуба» Станіслаў Стых смяецца: «Мы як тая сваццяа, зводзім з сабою і фірмы, і людзей. Збіраем агульныя інфармацыі пра ўсходні рынак і падрабязныя прапановы супра-

працяг на стар. 3

## АБ ПРАСЛЕДАВАННІ ПОЛЬСКІХ ДЗЯЦЕЙ У БЕЛЬСКУ

Канікулы.

Каб для пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім не быў гэта час адно бестурботнага адпачынку, пастараўся беластоцкі куратар асветы і выхавання Пётр Літэрмус. Ён, з дзіву годнай паслядоўнасцю, унушае дырэктару, настаўнікам і бацькам вучняў, што школу трэба паменшыць. Толькі такім чынам можна палепшыць умовы працы ў ёй.

Угрунтаванага погляду куратара не змяніла таксама камісія для разгляду матэрыяльнай базы пачатковых школ горада Бельска, створаная ім у маі гэтага года, пасля размовы з прадстаўнікамі бацькоўскага камітэта „тройкі". Старшыня бацькоўскага камітэта Аляксандр Божка атрымаў перад канікуламі ад куратара афіцыйны ліст (з датай ад 4 чэрвеня). Справу прызнання школе новага будынка ліст замоўчвае. Затое ёсць старое павучэнне: дырэктар Пачатковай школы н-р 3 павінен абмежаваць запісы новых дзяцей, а іхнім бацькам тлумачыць, што будзе можна вучыцца беларускай мове ў любой школе горада. Адначасна дырэктараў пачатковых школ н-р, н-р: 1, 2, 4 і 5 „ветліва просіцца" арганізаваць у сябе навучанне беларускай мовы для тых дзяцей, якім не хапіла месца ў „тройцы".

На практыцы, лёс навучання беларускай мовы ў такіх школах вядомы (прыкладам Пачатковая школа н-р 4 у Бельску, усе школы ў Гайнаўцы, ці хаця б сёлетняя спроба адкрыць беларускі клас у беластоцкім Агульнаадукацыйным ліцэі н-р 10). Але ці ж гэта аргумент у дыскусіі з панам куратарам?

Затое, куратар прыводзіць урэшце каронны аргумент за адкрыццё ў былым будынку ПАРП 3-класнай Пачатковай школы н-р 5. Рашэнне аб яе адкрыцці лічаць, мякка кажучы, няўдачным, не толькі ў „тройцы" (глядзі зацемку Казімежа Расінскага „Kościół odzyskał, szkoła się martwi" у беластоцкім дадатку „Gazety Wyborczej", ад 15.06.1992 г.) і ў сувязі з тым, спадзяюцца яго адмены. Уладзіслаў Багнюк, дырэктар музычнай школы, якая павінна вызваліць пасляклаштарны будынак (вернуты Каталіцкаму касцёлу) і пашукаць новае памяшканне, лічыць дасканалым аб'ектам для патрэб гэтае школы якраз успомнены пасляпартыйны будынак. Казімеж Расінскі ў сваёй занатоўцы піша, што да гэтага з сімпатыяй ставяцца гарадскія ўлады. Праўду сказаўшы, дзіўным з'яўляецца змена поглядаў „бацькоў" горада, паколькі раней выказвалі абсалютны брак яко-

працяг на стар. 3

## БЕЛАВЕЖА НЕ ЗАСЫНАЕ

*Інвестыцыйны размах, які Белавежа праходзіла ў 80-ыя гады, бадай няхутка паўторыцца. Але ўсё ж і на пачатку 90-ых нешта ў гэтым турысцкім мястэчку дзеецца. За больш падрабязнымі інфармацыямі я звярнуўся да войта гміны Анны Байко. Раней яна шмат гадоў працавала дырэктарам Белавежскага асяродка культуры. Бадай таму спадарыня Анна і пачала з яго.*

— Вядома, што наш Дом культуры ў новым, мадэрнізаваным памяшканні дзейнічае ўжо амаль паўтара года. Дык толькі цяпер мы заканчваем пры ім працы з панадворка. Вось ужо гатовыя фасад, лесвіцы, а можна сказаць, што і ўсе доступы. Яшчэ крыху „касметыкі" на пляцы і будзем лічыць, што аб'ект закончаны. — Хачу ў гэтым месяцы пахваліць, — *падкрэслівае спадарыня войт*, — выканаўцу прац, Бельска-падляшскае будаўнічае прадпрыемства. Гэта сур'ёзная фірма!



*Вуліца Спартовая ў Белавежы. Злева Дом культуры яшчэ ў час перабудовы.*

Што далей? Па рангу, бадай, трэба ўспомніць пра разбудову пажарнага дэпо. Ужо зроблены абагравальны канал, паклалі таксама трылінку. А найважнейшае, што маглі ўвесці аўтамашыны ў гаражы. Каб яшчэ знайшоўся хтосьці ахвотны выканчыць 12 гасцінных пакояў — мы далі б іх яму ў карыстанне. Нам гэтыя працы зараз не пад сілу.

— Гідрафорню, — *працягвае сп. А.Байко*, — „цягнем" з кастрычніка мінулага года. Зараз яна аснашчаецца тэхнічна, неўзабаве будзем падключачаць да станцыі трафо. У верасні г.г. павінна ўжо працаваць. Кошт пабудовы дасягне 1,5 мільярда злотых. Добра, што палову грошай дасць Ваяводская ўправа, інакш мы не маглі б выплаціцца.

Зацягваюцца крыху працы на нашым стадыёне. Маем там закончыць сацыяльныя памяшканні (чатыры залы) і паставіць лаўкі пад трыбунай. Баюся, аднак, што ў бягучым годзе не хопіць на гэта грошай.

Пакуль што нічога не дзеецца на будове ачышчальні сцёкаў. Зараз ідзе перапрацоўка крыху ўстарэлай дакументацыі — яе трэба дастасаваць да сучасных патрабаванняў воднаачышчальнай гаспадаркі, што спалучана з увядзеннем навейшых тэхнічных рашэнняў. Улетку працы над гэтым павінны закончыцца і, калі толькі прышлюць абяцаныя грошы з Нацыянальнага фонду аховы асярод-

працяг на стар. 4

## НА МЯЖЫ

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

**ЧАСТКА II**

Жанчына гадоў шасцідзесяці: „Я магу галасаваць хоць бы і на чорта, каб толькі было так, як было раней пры Гераку. Мой швагер пры Гераку прадаў свінню і за тыя грошы збудаваў дом. А цяпер захацеў у гэтым доме памяняць клямкі на больш навачэсныя, то калі прадаў свінню, то аказалася, што грошай на клямку не хапіла. От табе і свабода. А ўсё гэто капіталісты нарабілі. А чы ён свой чы чужы, то адзін чорт. Кажды будзе грабсці ўсе сабе, а не ад сябе. А гэты твой капіталіст нібось малюхом ні ездзіт, напэўно, мае якую-лень заграанічну таксоўку. А як ні мае яшчэ, то хутко купіт. Не, не буду я на такіх галасаваці. Ён хочэ, каб яго выбралі і каб яшчэ ў гэтым Сеймові грабсці з дзесяць мільёнаў у месяц, а ў мяне рэнта шэсцьсот тысяч. І ні гавары навэт, галасаваць на такіх ні буду, ніхай ужэ лепш мяне грабіт чужы, чым свой."

І сапраўды, нашы людзі не галасавалі. Амаль ніхто на Беласточчыне не падтрымаў майго кандыдата. Атрымаў ён, па сутнасці, камічную колькасць галасоў, штосьці каля 150. Зразумела, што такі вынік кампраметуе і майго кандыдата, і маю агітацыю ў яго карысць.

Прайшло ад выбараў некалькі месяцаў, і я ніяк не магу выкінуць з галавы гэту справу. Сядзіць яна ў ёй як назойлівая загвоздка. Стаўлю перад сабой пытанне, ці патрэбны беларускія капіталісты? На так пастаўленае пытанне хачу адназначна адказаць — патрэбны. На працягу стагоддзяў беларускі народ не меў „родных" памешчыкаў, не меў „родных" прэм'ераў і міністраў, не меў „родных" вучоных, „родных" чыноўнікаў, не меў і „родных" мітрапалітаў і епіскапаў. Не меў „родных" капіталістаў. Беларускі народ быў чужынцамі загнаны ў хамут аднаго грамадскага класа, быў толькі мужыцкім народам. Калі сяму-таму з беларусаў удавалася вырвацца з сялянскага ярма і перастаць быць „хамулаю", дык ён як мага хутчэй адракаўся ад мужыцкасці і звязанай з ёй беларускасці. Станавіўся хуценька рускім або палякам і хутка заціраў у сваіх анкетах і дакументах сляды свайго сацыяльнага і нацыянальнага паходжання. Не маючы сваёй інтэлігенцыі, сваёй арыстакратыі, сваёй буржуазіі і сваіх палітыкаў, беларусы не маглі стацца і не сталіся поўным народам. Не ведаю, ці мы паўнарод, ці можа чцэрцьнарод, але ва ўсякім выпадку не поўны народ. Так мы трактуем сябе і так нас успед за намі трактуюць іншыя.

І раптам у апошніх гадах так павярнулася сітуацыя, што шэраг палітыкаў, вучоных і нават капіталістаў загаварыла аб сваёй беларускасці і ўзнікла магчымасць, праўда, пакуль што не рэалізаваная, стварэння беларускай нацыянальнай дзяржавы, беларускага нацыянальнага гонару і беларускай нацыі.

Здавалася, што хто як хто, але сяляне, якія на працягу стагоддзяў не страцілі роднай мовы, якія захавалі традыцыі і абрады, якія былі сапраўднымі носьбітамі беларускасці, не могуць станавіцца як бы ў апазіцыю ў адносінах да ідэі стварэння развітага ўсебакова беларускага грамадства, у якім не толькі селянін, але і настаўнік, і інжынер, і ветэрынар, і дыпламат, і палітык, і капіталіст будуць паслугоўвацца той мовай, якую захаваў і збярог на працягу соцень гадоў мужык. А так яно як бы пакуль што не ёсць.

І я асабіста ўсё ж такі не веру, што чужы капіталіст лепшы, чым свой. Я перакананы, што тыя беларусы, якія сёння ўмела выкарыстоўваюць палітычную і гаспадарчую кан'юнктуру і канцэнтруюць у сваіх руках вялікія грошы, так ці інакш не будуць інвеставаць іх у Пазнанскім ці Вроцлаўскім, а толькі тут на месцы, на Беласточчыне, адкрываючы перспектывы заробкаў для мясцовага беларускага насельніцтва.

І яшчэ адно. У нашых людзей выступае выразны сум за тым, што было, і бязвер'е ў адносінах да таго, што ёсць і будзе. Я не хачу нікому мяняць яго палітычныя погляды, тым болей што і сам усё заўсёдзчваю мінулай эпосе. Аднак, мусім усвядоміць сабе адзін факт — мінулае ўжо не вернецца. Не памогуць тут ані малітвы, ані злосць. Беларусы ў Польшчы мусяць пачаць дастасоўвацца да новага, а гэта новае, хочам ці не хочам, пахне капіталізмам.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Сенат ЗША** прыняў пастанову аб дапамозе рэспублікам Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Атрымаюць яны ў гэтым фінансавым годзе дапамогу велічынёю ў 620 мільёнаў долараў. Дзяржавы Сярэдняй Еўропы, а таксама Літва, Латвія і Эстонія павінны атрымаць 850 млн. долараў. Рашэнне Сената будзе яшчэ разглядацца Палатай рэпрэзентантаў Кангрэса ЗША.

**Прадстаўнікі 29** дзяржаў парафавалі ў Вене і падпісалі на канферэнцыі НБСЕ ў Хельсінкі акт аб колькасці салдат у канвенцыянальных узброеных сілах у Еўропе. Паводле гэтага пагаднення Польшча зможа мець 234 тыс. салдат, Нямеччына — 345 тыс., Чэха-Славакія — 140 тыс., Украіна — 450 тыс., **Беларусь — 70 тыс.**, Расія (на ўсёй тэрыторыі) — 1450 тыс., ЗША (у Еўропе) — 250 тыс., Вялікабрытанія — 260 тыс., Францыя — 325 тыс.

**Прадпрымальнікі і бізнесмены з Польшчы і Літвы стварылі ў Сувалках Польска-літоўскую гаспадарчую палату.** У яе састаў увайшло звыш ста польскіх і звыш пяцідзесяці літоўскіх фірм.

Нядаўна адкрыўся новы міжнародны чыгуначны маршрут **Сувалкі — Шастакай** (Літва). У яго адкрыцці прымаў удзел міністр транспарту **Эварыст Валігурскі** і прадстаўнікі дырэкцыі ПКП. Пашпартны і мытны кантроль адбываецца ў цягніку паміж станцыямі Сувалкі — Тракішкі.

У найбліжэйшыя гады будзе адкрыты **21 новы кантрольна-пропускны пункт на граніцы паміж Польшчай і Нямеччынай.** На заходняй граніцы агулам будзе сорак КПП. Прыгадаем, што на граніцы з Беларуссю ёсць два КПП — у Кузніцы і Брэсце.

Ваявода і Ваяводскі камітэт абароны ў Легніцы загадалі ўвесці **стан павышанай боегатоўнасці** парадкавых органаў у сувязі з грабяжом дзяржаўнай маёмасці, якой карысталіся войскі былога СССР. Пасля вываду расейскіх часцей дэвастуюцца не толькі будынкі, але вядзецца гандаль, у тым ліку і культурнымі каштоўнасцямі. У гэтай здзелцы прымаюць удзел не толькі грамадзяне чужой краіны, але і палякі.

**Таварыства яўрэяў** — былых салдат брытанскай арміі AJEX ухваліла на сваім апошнім штогадовым з'ездзе ў Лондане рэзалюцыю, у якой яно „выказвае задаволенасць з рашэння польскага ўрада аб пераводзе ордэна кармелітанак з тэрыторыі канцлагера ў Асвенціме (Аўшвіц) і іх пасяленні па-за гэтым абшарам".

**Студэнты Віленскага універсітэта** будуць вучыцца ў Беластоку і Гданьску. На лекарскім факультэце беластоцкай Медыцынскай акадэміі дваццаць чалавек, на стаматалагічным — пяць, а таксама пяць на стаматалогіі ў Гданьску. Кандыдаты экзаменаваліся ў Вільні навуковымі супрацоўнікамі з Беластока. Студэнты атрымаюць стыпендыю ад польскага ўрада велічынёю 1200 тысяч злотых у месяц.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ „У НІВЕ"



### ПАПРАЎКА

У артыкуле М. Ваўранюка „Старшыня Савета Рэспублікі Беларусь у Польшчы" („Ніва" н-р 28 ад 12 ліпеня г.г.) намі была дапушчана прыкрая памылка. На стар. 1 у трэцяй паласе над здымкам сказ павінен пачынацца так: **Бакі пагаднення падкрэсліваюць непарушнасць дзяржаўнай мяжы...** (а не *мовы*, як было надрукавана).

Аўтара і чытачоў за памылку перапрашаем.

Рэдакцыя

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### УКРАІНА І ТУТ УСІХ АПЯРЭДЗІЛА

На мінулым тыдні Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны на Беларусі Уладзімір ЖАЛІБА ўручыў вярыцельныя граматы Старшыні Парламента нашай рэспублікі Станіславу Шушкевічу. Такім чынам, Украіна стала першай краінай СНД, якая адкрыла дыпламатычнае прадстаўніцтва на Беларусі. Астатнія братнія рэспублікі былога СССР пакуль што не спяшаюцца адпраўляць да нас сваіх паслоў.

### ЗАЛАТАЯ ЛІХАМАНКА НА БЕЛАРУСІ?

Зусім верагодна, што хутка на Беларусі пачнецца залатая ліхаманка. Як сведчаць папярэднія „разведдадзеныя" спецыялістаў, паблізу Оршы знаходзіцца радовішча золата. Для правядзення пошукава-ацэначных работ урад рэспублікі ўжо выдзеліў Дзяржаўнаму геалагічнаму прадпрыемству „Белгеа" тры мільёны трыста тысяч рублёў. А раптам штонебудзь знойдуць!

### ПРЭМ'ЕР СВЕДКАМ БУДЗЕ?

Магчыма, гэтым летам прэм'ерміністр Беларусі Вячаслаў Кебіч і яго першы намеснік Міхаіл Мясніковіч прадстануць перад... судом у якасці сведак.

Народны дэпутат рэспублікі Яўген Новікаў патрабаваў узбудзіць крымінальную справу па фактах разбазарвання страхавога фонду Беларусі кіраўніцтвам Дзяржстраха РБ. На думку парламентарыя, гэта злачынства адбылося менавіта дзякуючы пастановам Саўміна аб рэарганізацыі Дзяржстраха ў камерцыйную фірму. Таму Яўген Новікаў афіцыйна заявіў грамадзян Кебіча і Мясніковіча сведкамі на гэтым працэсе, які мае адбыцца праз некалькі тыдняў.

### ДЭТЭКТЫВЫ ЗНАЙШЛІСЯ

На мінулым тыдні Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі выдала першую ліцэнзію прыватнай дэтэктыўнай фірме. Шчаслівым уладальнікам гэтага дакумента стала дэтэктыўнае агенцтва з Брэста „Набат".

### ХОЧАШ ЛЁГКА ДЫХАЦЬ — РЫХТУЙСЯ ДА ВАЙНЫ

Другі з'езд Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза „Чарнобыль" звярнуўся да ўрада і парламента з прапановай стварыць у рэспубліцы экалагічныя войскі. Па планах саюза „Чарнобыль" кола абавязкаў у падраздзяленняў экалагічнай абароны павінна быць вельмі шырокае — ад утылізацыі шкодных рэчываў і ратавання людзей падчас катастроф да звычайнай аховы прыроды. Кіраўніцтва рэспублікі пакуль што не адрэагавала на ініцыятыву „Чарнобыля".

### У КАСЦЁЛ СА СВАІМ СТАТУТАМ

Саюз палякаў Беларусі (СПБ) распаўсюдзіў заяву, у якой абвінаваціў Беларускую каталіцкую грамаду (БКГ) у шавінізме. Падставай для такога сур'ёзнага абвінавачання стала інтэрв'ю больш чым гадавой даўнасці лідэра БКГ Фелікса Янушкевіча, дзе ў прыватнасці ішла гаворка аб неабходнасці вядзення багаслужэнняў у беларускіх касцёлах на беларускай мове.

### БОЛЬШ РЭФЕРЭНДУМАЎ, ВЯЛІКІХ І МАЛЫХ

Пакуль Вярхоўны Савет усімі сродкамі імкнецца адцягнуць усебеларускі рэферэндум, у некаторых рэгіёнах рэспублікі людзі спрабуюць скінуць мясцовых князькоў шляхам рэферэндумаў раённага маштабу. У горадзе Чэрыкаве Магілёўскай вобласці ўжо збіраюцца подпісы, каб адправіць у адстаўку мясцовае кіраўніцтва. Эстафету землякоў падхапілі і жыхары Глуска, тут таксама незадаволены раённым начальствам. Цікава, хто падтрымае глусчан?

### САМАЕ РАЗУМНАЕ, ДОБРАЕ, ВЕЧНАЕ

З першага верасня ў Гомелі адчыніць дзверы новая навучальная ўстанова — Духоўны універсітэт маралі і культуры. Цікава, што студэнты гэтага універсітэта разам з рэлігійнымі дысцыплінамі — Законам Божым, гісторыяй праваслаўя — будуць вывучаць і свецкія прадметы — жывапіс, гісторыю беларускага мастацтва. Рэктарам універсітэта выбраны епіскап Гомельскі і Мазырскі Арыстарх.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# НАДЗЯ, НАШТО ТАБЕ ЦАЦКІ?!

Зборнічак вершаў Надзеі Артымовіч „*Сезон у белых пейзажах*" сармяжны на выгляд. Такі ўжо характар у яго аўтаркі: хутчэй не хоча, чымсьці не ўмее, падбаць пра свае выдавецкія інтарэсы... Добраму тэксту не трэба аздобы?

З натхненнем у Надзі нешта нядобрае здарылася за апошнюю дэкаду — пашарэла яно як быццам. Гэта звязана, відаць, не столькі з нейкай, проста біялагічнай, змучанасцю чалавека, якім перш за ўсё з'яўляецца кожны аўтар. З'ява, пра якую згадваю і якая так уразіла мяне ў тое поначнае чытанне яе вершаў у сваім ціхім доме ў Крынках, мае, несумненна, літаратурна-мастацкую прыроду. Артымовічанка пакуль што не ў змозе пераскочыць саму сябе, развітацца з дасягнутым майстэрствам, каб перайсці да наступнага; можа быць, нават далей, чым ужо зайшла. Гэткі мой здогад вынікае з самааналізу таксама і сябе. З тайнай роспачу ад некаторага часу запрыкмеціў я, што пішу манатонна аднолькава. І, хоць — пэўна — няблага, але, бадай, пачынаю быць нудным свайму вернаму чытачу. Баюся, што гэта пазнака затрыманасці ў развіцці падоранага лёсам таленту. Драма гэта мая і, дай Бог, каб не сталася яна і драмаю Надзеі Артымовіч.

Са здаровай зайздрасцю натыкаўся я ў зборнічку „*Сезон у белых пейзажах*" на радкі, над якімі роздумна маўчаў.

„ *чатыры поры года ў чорнай сумцы*
*без ключа*".

Не ведаю, як цяжка далася Надзі выпрацоўка менавіта гэтай фразы, але яе лаканічную шматзначнасць, здавалася б, у зусім банальнай прычыннасці трэба лічыць не абы-якім майстэрствам. Або падобная, амаль афарыстычная:

„... *трыццацігадовыя сыны хутка*
*губляюць белыя кашулі*". Праз хвілю засумняваўся я быў наконт неабходнасці тут слоўца „*хутка*"... Ды не, без яго атрымалася б нешта плыцізнаватае, з адрубленым падтэкстам.

Праводзіць Надзя і рызыкоўныя эксперыменты, аж да самое мяжы графаманіі, надуманасці, штучнай метафорыкі, але ейны творчы інстынкт ахоўвае яе, бы анёл белакрылы.

„... *сумненне ціхім кацянём*
*падыходзіць да гарбатай бярозы*".

Віраж узяты, катастрофа пяра не адбылася. Едзем далей у белыя пейзажы Надзеі Артымовіч. А сумна ад іх на душы, хоць ты на месяц вый! Кніжыца яе не для слабых. Але як разумець, хто слабы, а хто не? Мне асабіста падабаецца смутак; лічу яго разумнейшым за рогат. Смеху ў страфах Надзі вы не шукайце. Зрэшты, нашто ён вам?

„... *вокны ў гэтым доме хварэюць*
*трэба чыстай рукой*
*ратаваць і вокны і вочы*
*прашаптаць забытую малітву*
*на хлеб*
*на соль*
*на вас усіх*
*якіх ужо няма*".

Не хачу шукаць параллеляў з творчасцю іншых паэтаў. На сваю добраахвотную ганьбу прызнаюся, што няшмат я іх чытаю. Усё часу таго бракуе; усё ж пахвалюся: не для „*белавежцаў*"! Для мяне іхнага зместу якісьці цалкам хапае, каб адчуваць кантакт з культураю свету... Ого, бярэ мяне „*ангельская хвароба*" (сярэдні інтэлігент на Альбіёне не надта сквапны цаніць нешта з па-за яго айчыны). Калі трапляе мне на вочы Надзінае „*таўсцеюць непатрэбныя вароны*", я спадцішка хіхікаю, відаць, даволі зласліва спадзеючыся творчага промаху, нізкай рэпарцёрскай пуэнты...

Запісваю ў сваю памяць недэфініявальнае:

„... *ці помніш жоўтае лета*
*нядрэнны ўраджай*
*і жоўты новы касцюм*".

Кожная велічыня складваецца з атамаў малога. Самы высокі будынак — гэта паасобныя цагліны. Найдоўгае жыццё — з дзён і хвілінаў. Але ў тых шэрагах выблісківаюць якіясьці моманты, быццам тое адно кальцо ў ланцузе, якое вырашае пра ўсю ягоную моц. Новых касцюмаў бывае ў жыцці шмат, і нават тых самых жоўтых; аднак, адзін нейкі — у такое ж жоўтае лета — з наогул звычным, бо нядрэнным, ураджаем - - -

Вось прыклад, як паэзія не паддаецца пераказу, інтэрпрэтацыі, у спробу якой выходзіш дурнем. Паэзія — гэта чараўніцтва або таямніца жыцця. Спачуваю аналізатарам яе: нагадваюць яны магілакопа, які натыкаецца на жменьку чагосьці попельнага, што некалі было сэрцам і душою.

„*паэты паміраюць тады*
*калі першы раз*
*заблудзіць жывое слова*".

Прыгожа сказана, але, выбачайце, какетліва. Па-кніжнаму надумана. Гавару ў кантэксце ўсяго верша. Перастаю разумець, што такое **„паэт"**, і што такое „*слова*", а яшчэ і жывое (пардон: ці нябожчыкі таксама гавораць?). Дала тут Надзя аказію чапляцца, стварыўшы інтэлектуальную цацку, замест адкрыць яшчэ адну праўду — меншую або большую — пра чалавека. А цацка цацкаю: нацешацца ёю і забудуць, у крапіве зіржавее.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## АБ ПРАСЛЕДАВАННІ ПОЛЬСКІХ ДЗЯЦЕЙ У БЕЛЬСКУ

працяг са стар. 1

га-небудзь зацікаўлення лёсам школьніцтва, спасылаючыся на неабмежаваныя правы Куратарыі ў гэтай дзялянцы. Ну, але, відаць толькі карова не мяняе сваіх поглядаў.

Вернемся аднак да гэтай новай **(кур'ёзнай) школы.** „*Utworzenie szkoły nr 5 z kl. I-III podyktowane jest zlokalizowaniem jej w śródmieściu, umożliwieniem dzieciom najmłodszym narodowości polskiej nauki w pobliżu miejsca zamieszkania*".

Вось як! У Бельску-Падляшскім дзеці польскай нацыянальнасці церпяць праследаванне! У школу ім далей, чымсьці беларускім аднагодкам, як жа гэта так? Чаму такую яўную дыскрымінацыю выявілі так позна? За гэта павінны паляцець галовы з плячэй ды іншыя часткі цела са столкаў!

Я прапаную, каб ад сённяшняга дня неабходнай прыладай кожнага працаўніка бельскага аддзела Куратарыі была метроўка. Дазволіць гэта прадухіліць такія непарадкі ў будучыні. Шкада толькі, што ніхто яшчэ не прыдумаў ніякай прылады для памеру розуму.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



## ЗНОЎ НЕ ЎДАЛОСЯ

Чарговая спроба ўвесці беларускую мову ў адну з беластоцкіх школ аказалася безвыніковай. У Агульнаадукацыйным ліцэі н-р 10 меўся быць адкрыты клас з дадатковым навучаннем беларускай мовы (4 разы ў тыдзень). Ініцыятарам было Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якое атрымала згоду на рэалізацыю сваёй задумы куратара асветы і дырэктара ліцэя. Пасля таго, даваліся аб'явы па радыё і ў беластоцкай прэсе. На жаль, ахвотных вучыцца ў гэтым класе не знайшлося.

Дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя н-р 10 Ян Казлоўскі шкадуе, што не ўдалося адчыніць гэты клас. „Мы планавалі даць нашай школе такі гуманітарны профіль, культурна-асветны характар. Разам з дырэктарам Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Казімежам Дэркоўскім планавалі мы ўвесці навучанне элементаў фальклору. Такі клас, з беларускай мовай, узбагаціў бы наш ліцэй. Таму, калі з'явіліся ў мяне Янка Сычэўскі і Янка Зянюк, я без ніякага вагання згадзіўся арганізаваць такі клас. Яны мне абяцалі дапамогу ў наборы кандыдатаў. Але, на вялікі жаль, вынікі набору нулявыя. Нам цяпер — на канікулах — даводзіцца шукаць ахвотных на месца гэтага класа".

Намеснік старшыні ГП БГКТ Янка Сычэўскі лічыць, што галоўным тормазам у гэтай справе ёсць усё яшчэ не завершаны працэс дэмакратызацыі ў нашай краіне. Адбіццём агульнадзяржаўных працэсаў з'яўляюцца таксама польска-беларускія стасункі тут, у Беластоку. Іх характар усё яшчэ далёкі ад беззаганнага, сімфанічнага, так сказаць. Дзеячы Беларускага таварыства вераць, што адносіны польскай большасці да беларускай меншасці папраўляцца. З прапановай адчыніць у Белфстоку беларускі клас намерваюцца яны выступаць і ў будучыні. „І гэты клас будзе, — гаворыць Янка Сычэўскі, — калі не праз год, дык праз два-тры".

**М.В.**

## СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З УСХОДАМ - З ДАПАМОГАЙ „БІЗНЕС-КЛУБА"

працяг са стар. 1

цоўніцтва, правяраем іх у Бюро гандлёвага саветніка адпаведнай дзяржавы і даводзім гэта да ведама нашых прадпрымальнікаў. Штомесяц, у кожную трэцюю сераду ладзім агульны сход нашых членаў і, пры нагодзе, сустрэчу з прадстаўнікамі бізнеса адной з усходніх дзяржаў. Нашыя члены не абавязаны прысутнічаць на кожным такім сходзе. Варункам членства з'яўляецца аднаразовы ўзнос 1,5 мільёна злотых і 100-тысячныя складчыны кожны месяц. Нашы члены павінны таксама даваць прапановы, з кім і ў якіх дзялянках хочуць супрацоўнічаць ды дзяліцца інфармацыяй пра свае магчымасці і патрэбы».

У сераду 24 чэрвеня г.г. сустрэча ў «Бізнес-клубе» была прысвечана супрацоўніцтву з Беларуссю. Запрошанымі госцьмі былі: гандлёвы саветнік Рэспублікі Беларусь у Варшаве Мікалай Петрушкевіч, прадстаўнікі бізнесу з Гародні і Магілёва. /Не даехалі прадстаўнікі мытні і гандлёвага банку Беларусі./ На агульным сходзе Мікалай Петрушкевіч накрэсліў сітуацыю і перспектывы ў гандлі між Польшчай і Беларуссю. На жаль, не шмат змянілася ў гэтай дзялянцы на працягу апошняга года /глядзі інтэрв'ю з М. Петрушкевічам «Найважнейшае - эканоміка»; «Ніва» н-р 37 за 1991 г./ - надалей шчыльная дзяржаўная мяжа, недахоп валюты ў беларускага партнёра, брак супольнага, польска-беларускага гандлёвага банку. Абнадзейваць тут могуць шматлікія размовы ўрадавых прадстаўнікоў абедзвюх дзяржаў ды падпісваныя імі чарговыя пагадненні. З цягам часу павінны яны прынесці эфект.

Агульная сустрэча працягвалася каля дзвюх гадзін. Мікалай Петрушкевіч, пасля ўводнага слова, адказваў на пытанні прысутных /было іх каля паўсотні/: пра мытную працэдуру і пра падатковую палітыку Беларусі, пра ход прыватызацыі ў РБ і пра мешаныя польска-беларускія суполкі. Пасля гэтага старшыня Стых зачытаў прапановы тавараабмену, і бізнесмены разышліся па кабінетах абшырнага Расейскага асяродка культуры, каб сфіналізаваць канкрэтныя ўжо дамовы.

Ці з гэтай мукі будзе хлеб? Пакажа час, а таксама вынікі падпісаных кантрактаў. Практыка апраўдае /або і не/ сэнс існавання такой ініцыятывы, як «Бізнес-клуб», ды патрэбу такога тыпу сустрэч. Пакуль што кіраўніцтва плануе наступныя: у ліпені пра Расею, а восенню, па чарзе, аб дзяржавах Прыбалтыкі. Зацікаўленыя могуць ехаць у Варшаву, на вул. Фоксаль 10, у кожную трэцюю сераду месяца /пачатак, звычайна, а гадз. 11/, або даведвацца па тэлефоне: 278687, ці факсе: 277623.

**ак**

## БЕЛАВЕЖА НЕ ЗАСЫНАЕ

*працяг са стар. 1*

дзя, будова пачне рухацца. Мо яшчэ ў бягучым годзе? Баюся, каб не выгаварыцца. Пры нагодзе будовы ачышчальні збудуецца і новы мост ля шлюзы. Ён патрэбны не толькі дзеля перавозу матэрыялу на будову, але мо перш-наперш сялянам з Заставы. Таксама скарыстаецца ім турысцкі рух.

— Дзякуючы белавежскаму надлясніцтву, якое дапамагло матэрыяламі, зроблены ўжо мосцік у Дуброве ля Тэраміскаў. А калі ўжо гутарка пра дарогі, то хачу ўспомніць, што вядзем рамонты палявых дарог. Вясною залілі мы асфальтам усе калдобіны на вуліцах. На жаль, цяпер асфальт вельмі дарагі. Далей добраўпарадкоўваем усе месцы нацыянальнай памяці, прыступаем да рамонту дзіцячага сада.

*Пытаюся у сп. Байко, якія інвестыцыі плануюцца ў бліжэйшы час.*

— Праз месяц-два прыступім, супольна з гайнаўскай Тэлекамунікацыйнай установай, да перарваных прац пры пракладцы кабеля, які спалучыць пушчанскія вёскі з тэлефоннай станцыяй у Белавежы. Адначасова старую станцыю заменім новай, што дасць магчымасць падключыць 200 новых абанентаў. У будучым годзе прыступім (на гэты раз у супрацоўніцтве з Энергетычнай установай) да рамонту надта выэксплуатаванай энергетычнай лініі на вуліцы генерала А. Вашкевіча. Кошт гэтай інвестыцыі разлічваем на 1 мільярд злотых.

*Што ж, нельга сказаць, што Белавежа засынае!*

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота аўтара**

---

### АДДАМ КНІЖКІ!

Пераглядаючы сваю бібліятэчку, прыйшоў я да вываду, што магу аддаць дарма вось такія кніжкі:

1/ Vyacheslav Shalkevich — Kastuś Kalinowski. Minsk, 1986 (на англійскай мове).

2/ Maksim Bahdanovich — The Burning Candle. Minsk, 1991 (на англійскай мове).

3/ Уладзімір Караткевіч — Чорны замак Альшанскі. Раман. Мінск, 1983.

4/ Leszek Moszyński — Cerkiewnosłowiańskie tytuły ewangelijne. W-wa, 1990.

Мой адрас: Piotr Bajko, ul. Parkowa 4 m. 3, skryt. poczt. 12, 17-230 Białowieża, tel. 12-583.

---

### ЯК ПАДПІСВАЦЦА НА „НІВУ"?

Наш чытач **Марк Цыбарт** пытае, дзе цяпер, пасля разрыву рэдакцыі з БГКТ, можна падпісвацца на „Ніву"?

Інфармуем, што той, хто падпісаўся ў БГКТ, будзе атрымліваць бандэролі з „Нівай" з Таварыства. Можна ўжо падпісвацца і ў самой рэдакцыі. Адзін экземпляр тыднёвіка з высылкай каштуе 3500 зл., а падпіска на III квартал г.г. — 45500 зл. Грошы трэба пералічваць на рахунак: **Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, konto: PBK SA Warszawa, I Oddział Białystok, nr 370406—207917—132.**

Такім чынам можна заказваць і ранейшыя нумары „Нівы".

## З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**22 — 10 — 1988 г.**

19-га—21-га ў Альштыне, на літаратурнай сесіі. Як члену іхняга Аддзела ZPL, трэба ж было — урэшце! — з'явіцца мне там (ад часу ліквідацыі ваеннага становішча ў краіне). Шмат каго няма ўжо ў жывых... Застаўся, больш-менш, той самы аднак настрой паўп'янкі, паўбалагану; толькі без даўнейшай грашавітасці і вясёлых дзевак.

Аўтарская сустрэча ўКівітах, недзе ў бок Лідзбарка Вармінскага (ледзь адшукаў шафёр дарогу туды, у тую глухамань). Нейкім бабам, што парассядаліся ў вясковай бібліятэцы, начытаўся я апавяданнейкаў. Затое вельмі добрая была, назаўтра, мая сустрэча ў ліцэі, што ля вул. Гагарына ў тым жа Альштыне. Лёгка гаворыцца з інтэлігентнымі.

У Беласток — з Чыквіным. Гэта ўжо не той буфонны Ясь, а якісь такі згаслы ды агорклы (...).

„Wielkie miasto Białystok w Nowym Jorku" („Gazeta Współcz.", 21-га). Інтэрв'ю, на якім настаяла Халецкая. Кажуць, зграбнае і добра чытаецца. ...Падлiквідоўвае беларускую сірочасць у свеце.

У вельмі добрай сувязі з ім „Odnaleziona mogiła" — артыкул Міхася Шаховіча ў сённяшняй якраз „G.W." Пра пакутніка нашага Алеся Гаруна. І як ставілі помнік яму на кра-каўскіх могілках, і адкрывалі яго ў настроі дэманстрацыі беларускага патрыятызму (зайшоў Лёнік і расказаў дэталі).

Два „беларусінскія" тэксты, учора і сёння, у папулярнай польскай газеце, зусім непадобныя на папярэднюю балбатню пра беларусаў, якім толькі спевы ў галаве ды прыдуркаватае гасцяванне...

(...) Заўтра — З'езд БГКТ. Зянюк, Хмялеўскі, Рудчык, Ласкевіч хочуць, каб я стаў новым старшынёю; Барскі ўсім абрыд, БГКТ давёў ён „да ручкі"!

Ці ў стане яны ўчыніць такі „пераварот"? Калісь даволі было дамовіцца з ВК ПАРП.

**24 — 10 — 1988 г.**

Учора — XI-ы З'езд БГКТ (ад 10-ай гадз. раніцы да восьмае вечара). Восемдзесят чатырох дэлегатаў (не прыехала нешта к. трыццаці). Калі ў выбарах у новае ГП я атрымаў 68 галасоў (столькі ж і А. Міpановіч, а М. Бушка — 79!), на тры больш за Барскага, дык раптам усвядоміў сабе, што было б няздобра для БГКТ у маё эвентуальнае старшыняванне. Шматлікая фракцыя Барскага адхіснулася б ад Таварыства, надоўга аслабляючы арганізацыю (і без гэтага слабую). На форуме ж нававыбранага ГП яго пазіцыя — на шчасце! — аказалася мацнейшай: выйграў са мною пяццю галасамі, у іх ліку і маім).

На мой погляд, кіраўніцтва сфармавалася ўдана, скончыўся абсалютызм Барскага, магчымасці валюнтарызму (ягонае „лобі" рэдукавана да мінімуму, „пагарэлі" Майсеня і інш.). Божа, як ён трагізаваў, што застаўся без шмат-каго са сваіх паплечнікаў! Як прагне ён хоць абы-якое ўлады! Колькі радасці-палёгкі ў ім, што, аднак, перамог мяне! Не чакаў ён таго? ... Не прыкмячаў, што ўсё пусцей вакол яго?..

Буду ў Прэзідыуме ГП. І не вытурыць ён мяне адтуль. І не падарую я яму аніякай нядобрасумленнасці. Ён пра гэта ведае.

**(Працяг будзе)**

*Тлумачэнні:*

*— Алеся Гаруна — Алесь Гарун, літаратурны псеўданім Аляксандра Прушынскага (1887—1920 г.г.), аднаго з вялікіх нашых непрысутных, добрае імя якога толькі цяпер вяртаецца ў культурны ўжытак, аганьбаванае камуністычнай уладаю;*

*— Янка Зянюк, Міхась Хмялеўскі, Кастусь Майсеня, Віктар Рудчык, Валянціна Ласкевіч, Мікалай Бушка, — былыя або актуальныя дзеячы Беларускага грамадска-культурнага таварыства, члены яго цэнтральнага кіраўніцтва;*

*— ВК ПАРП — Komitet Wojewódzki Polskiej Zjednoczonej Partii Robotniczej.*

## ГЕНЕРАЛ ЯРУЗЕЛЬСКІ ШКАДУЕ



1 ліпеня г.г. у Беластоку пабываў генерал Войцех Ярузельскі, які ў той дзень у кнігарні на вул. Ліпарскага падпісваў сваю кніжку „Stan wojenny, dlaczego...". Перад гэтым адбылася прэс-канферэнцыя, на якой было пастаўлена і такое пытанне:

— Спадар Генерал! Гадоў дзесяць таму назад у адной са сваіх прамоваў Вы сказалі: „Мы цэнім і шануем уклад нацыянальных меншасцей у наша жыццё, у нашу культуру. Хочам, каб усе, хто жыве на польскай зямлі, мелі поўную магчымасць развіцця сваёй адметнасці, а таксама трывалае месца ў структуры сучаснай Польшчы". Беларускія дзеячы паверылі ў шчырасць гэтага выказвання і, калі ў 1985 годзе рыхтаваліся выбары ў Сейм, Прэзідыум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства паслаў Вам, як І сакратару ЦК ПАРП, ліст з просьбай стварыць магчымасць вылучыць свайго кандыдата ў паслы. Адказу не было. Ці Вас у той час інфармавалі аб палітычных пастулатах нацыянальных меншасцей і, калі так, то як Вы да іх ставіліся?

Генерал Войцех Ярузельскі сказаў:

— Проста не памятаю, ці такое пісьмо да мяне дайшло. Я не хацеў бы, каб вы палічылі, што я ўхіляюся ад адказу. Калі яно было да мяне накіравана і да мяне не дайшло, то я за гэта таксама нясу адказнасць. Відаць, тады не было такой праходнасці, такіх механізмаў, якія гарантавалі б, што такі дакумент да мяне дойдзе. Не памятаю і, праўдападобна, ён да мяне не дайшоў і, мабыць, на так званых узроўнях вяліся нейкія аналізы і з іх выцякалі такія, а не іншыя высновы. Зрэшты, дзейнічала тады, калі так можна сказаць, вельмі шырокая арганізацыйная перадвыбарчая кухня, якая брала пад увагу рознага віду аспекты. Калі сапраўды так было, як вы гаворыце, а так напэўна было, магу толькі шкадаваць, што мы тады былі яшчэ так пазбаўлены ўяўлення і так правінцыяльныя ў бачанні таго, што можна было выкарыстаць, даючы магчымасці дзеяння меншасцям.

Магу толькі дабавіць, што з пункту гледжання маіх жыццёвых дасведчанняў, ваенных і пазнейшых, я ніколі не меў ніякіх фобій у гэтых справах. Тым, хто не ведае, хачу сказаць, прыпомніць, паведаміць, што ў І Арміі Войска Польскага, а асабліва ў дывізіях, якія фармаваліся на тэрыторыі Савецкага Саюза, у І і ІІ, была нацыянальная мазаіка. Апрача, вядома, палякаў, было вельмі многа расейцаў, украінцаў, беларусаў, яўрэяў і не было ніякіх адрозненняў, там не было ніякіх калізій. Усе мы разам ішлі, разам змагаліся, разам гінулі. У мяне засталося ў крыві тое, што нельга дзяліць людзей, бо мы сябе праверылі ў самых цяжкіх момантах барацьбы за Польшчу — нашу супольную айчыну.

Можа гэта іншы бок справы, але, едучы сюды, у Беласток, мы гутарылі з паслом Цімашэвічам. Я гаварыў аб пераважна пазітыўных уражаннях, успамінах ад кантактаў з Польскай экуменічнай радай і асабліва з прадстаўнікамі больших касцёлаў, па-за каталіцкім, у Польшчы — праваслаўным і евангелічным. У мяне ёсць вялікая пашана для мітрапаліта Васілія і архіепіскапа Савы і многіх іншых духоўных — вялікіх патрыётаў, людзей, дасканала разумеючых інтарэс дзяржавы.

Вяртаючыся яшчэ раз да тэмы, закранутай вамі, магу толькі шкадаваць, што не ўдалося тады нам заўважыць з усёй вастрынёй важнасць гэтай праблемы.

**Пытаў В. ЛУБА**
**Фота З. Лянкевіча**

# Басовішча'92

Сёлета трэці раз.

Памалюсенькy набываем сталасьць. І вядомасьць. Хай сабе й у нашым тутэйшым асяродзьдзі. Выхад на прасьцягі музычнай Эўропы ў пэрспэктыве бліжэйшых гадоў беларускай музыцы як-бы й не пагражае, але сьцяжына, пратаптаная ў падгарадоцкі лес, не канчаецца глухім тупікам. «Басовішча» - гэта ўжо зыркі прамень надзеі на будучыню, гэта радасьць спатканьня й радасьць музыкі. Калі такое прыдараецца нам зь беларушчынай, значыць, усё з намі будзе нармалёва. Бо-ж нельга жыць адно зь вечнай роспаччу й спадзяваньнем на яшчэ горшае.

«Басовішча», задуманае пару гадамі назад як сьціплае студэнцкае мерапрыемства з гітарамі й півам пад адкрытым небам, няўпрыкмет для саміх арганізатараў пераўтварылася ў Фэстываль Музыкі Маладой Беларусі. Сёлета будуць нават грашовыя ўзнагароды. Будзем спадзявацца, што гэткая камэрцыялізацыя нашай дэмакратызацыі не закончыцца для імпрэзы поўнай прастрацыяй. Калі ня пойдзе дождж, калі не зачыняць прапускных пунктаў на мяжы й калі ня зьнікне электрычная напруга ў Гарадку - усё *будзя добро*. А нават вельмі.












# ПРАГРАМА „БАСОВІШЧА '92"

Сёлета арганізатары Фэстывалю Музыкі Маладой Беларусі маюць надзею правесьці тры фэстывальныя канцэрты: два конкурсныя (у пятніцу й суботу) і канцэрт ляўрэатаў (у нядзелю). Праграма „Басовішча '92" выглядае наступным чынам:

**17 ліпеня (пятніца), гадз. 19 00**

1. **ЛІЦЭЙ** — Гайнаўка
2. **Эля Бэзюк** — Бельск
3. **Сяржук Лаўнік** — Ліда
4. **Ліза Лямбовіч** — Менск
5. **Андрэй Мельнікаў** — Ворша
6. **АЛЕН** – Наваполацк
7. **ПАЛАЦ** — Менск
8. **ГРУНВАЛЬД** — Наваполацк
9. **КРАМА** — Менск
10. **МРОЯ** — Менск
11. **ДЗІДА** — Наваполацк

**18 ліпеня (субота), гадз. 19 00**

1. **ГРАМАДА** — Віцебск
2. **Вальжына Цярэшчанка** — Гомель
3. **Алесь Камоцкі** — Менск
4. **Лера Сом** — Полацк
5. **Віктар Шалкевіч** — Гародня
6. **Трыё РАМОНАК** — Гародня
7. **SEVEN B** — Гародня
8. **Кася Камоцкая й НОВАЕ НЕБА** — Менск
9. **МЯСЦОВЫ ЧАС** — Полацк
10. **ТАЛЕР** — Бярэсьце
11. **УЛІС** — Менск

**19 ліпеня (нядзеля)**

— 12 00 — 16 00 Свабодны мікрафон
Выступіць таксама гурт ВАКЗАЛ зь Віцебска
— 18 00 — Канцэрт ляўрэатаў

Арганізатары пакідаюць за сабою права ўнесьці некаторыя зьмены ў праграму.




*НА ЗДЫМКАХ „БАСОВІШЧА '91"*
*ФОТА А. МАКСІМЮКА*

# ПРА БАСОВІШЧА

Пачатак дзевяностых гадоў на Беласточчыне знамянальны узьнікненьнем адметнай у культурным краявідзе зьявы — Фэстывалю Музыкі Маладой Беларусі „Басовішча". Назоў Фэстывалю ўзяўся ад яго пачынальніка — Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў у Польшчы (БАС) — маладой арганізацыі, рада вод якой сягае пачаткаў ня менш знамянальных для гісторыі краіны васьмідзесятых. Першы Фэстываль „Басовішча" прайшоў у ліпені 1990 году. Ад гэтае пары традыцыйным месцам правядзеньня імпрэзы стаў гарадоцкі Барык, а тэрмінам — палова ліпеня.

так званы вольны мікрафон: голас для ўсяго непрадбачанага, што так ці інакш прыедзе ў Барык ды захоча выступіць.

Арганізатары „Басовішча", прыдумаўшы ў гэтым годзе конкурс, апынуліся перад дылемай: хто ў конкурсе, а хто па-за ім? З аднаго боку, сярод беларускіх гуртоў наглядаецца выразная дыфэрэнцыяцыя ўва ўзроўні прафэсійнасьці іхняй музыкі, а з другога-ж — як вынік мізэрнасьці інстытуцыяльных формаў музычнага жыцьця ў Беларусі, ня вытварыліся там верагодныя мэханізмы адбору „зораў" ад „пачаткоўцаў". Таму арганізатарам „Басовішча-92" гарліва падумалася, што якраз гарадоцкі фэстываль можа стацца месцам прамоцыі зорак беларускай маладой музыкі. Узнагароджаныя тут выканаўцы ў наступных гадох будуць выступаць на „Басовішчы" як зоркі. А сёлета — усе ў конкурс.




Трэцяе „Басовішча" паказвае, што Фэстываль набывае размах накшталт геамэтрычнае прагрэсіі. Цэлы сакрэт посьпеху гэтай імпрэзы мусібыць у сугучнасьці самое яе ідэі й імкненьня маладога пакаленьня ў Беларусі знайсьці карані свае духоўнасьці ды ўзбагаціць яе на сучасную вартасьць, носьбітам якое — рок-н-рол. Фэстывалі сучаснай беларускай музыкі ў самой Беларусі пачалі ўзьнікаць толькі пасьля старту нашага „Басовішча", якое й паказала, як трэба праводзіць падобныя імпрэзы. З жалем трэба тут адзначыць, што пакуль няма ў Беларусі фэстывалю, які-б прыцягваў увагу ўсяго музычнага асяродзьдзя і, пры гэтым усім, падтрымліваў якраз беларускае ў музыцы. Гэта, аднак, ня наш клопат.

Наша „Басовішча" падтрымлівае беларускі рок-н-рол і рок-н-рол пабеларуску — хоць, з нашага пункту погляду, гэта не заўсёды адно й тое-ж. Ад двух гадоў у фэстывалі прымаюць удзел дзьве катэгорыі музыкаў: салісты (барды й выканаўцы аўтарскай песьні) ды гурты. Вопыт падказвае, што гэткай формулы трэба прытрымлівацца й надалей. Салісты, музыка якіх патрабуе клімат пэўнай камэрнасьці, ідуць на першую лінію, зьяўляюцца як-бы ўступам для мэталічнага забою, які зазвычай нясе ў сабе гуртавая рок-музыка. З гэтай думкай была складзена праграма „Басовішча-92". У першы дзень мы пачуем наагул новых выканаўцаў, так-бы мовіць, дэбютантаў „Басовішча". Другога дня перавага аддадзена выканаўцам, якія ўжо гасьцявалі ў Барыку. Нядзеля — гэта канцэрт пераможцаў конкурсу, а перад ім гэ-

На трэцім Фэстывалі Музыкі Маладой Беларусі „Басовішча" будуць прызнаны чатыры ўзнагароды:

1. Узнагарода БАСу для гурту.
2. Узнагарода БАСу для саліста. (фундатар: Радыё Беласток)
3. Узнагарода публікі. (фундатар: Гміна Гарадок)
4. Пэрсанальная ўзнагарода Лёніка Тарасэвіча.

Пра прызнаньне ўзнагародаў 1 і 2 вырашыць адмысловае журы. Каб пазьбегчы шантажу ці іншых формаў націску, пэрсанальны склад журы будзем трымаць у сакрэце да часу заканчэньня конкурсу. Пра прызнаньне ўзнагароды 3 вырашыць плебісцыт публікі — у „Ніве" і ў „Часопісе" вы знойдзеце білет, якім і зможаце прагаласаваць за свайго ўлюбёнага выканаўцу.

**Ад імя арганізатараў „Басовішча-92" А. МАКСІМЮК**

# ULIS

**Czużanica**

Czużanica żywie pobacz,
Ukluczaje U2
Bi-Bi-Si ŭnaczy łowić,
Aż czuwać za wiarstu.
Czużanica Pall Mall palić,
Hladzić Hard Day's Night,
Jon czytaje stary Time,
Tam ahlad pra nasz kraj.

Ja adczuwaju nerwowy sum.
Ja palu szmat.
Ja szpacyruju zaŭždy adzin,
Sam sabie brat.

Czużanica żywie pobacz.
U lusterka hladžu -
Tam zamiest majho twaru
Tolki kropli daždžu.

Ja adczuwaju nerwowy sum.
Ja palu szmat.
Ja szpacyruju zaŭždy adzin,
Sam sabie brat.

**Plac Francyska**

Doŭhi Brod, zawułak kwietak i traŭ.
Nie pytaj mianie, dzie jany ciapier,
I nie szukaj.
Krok u zmrok, znoŭ taki samy moj szlach.
Płoszcza numar dwa, płoszcza numar try.
Dzie twajo imia, moj plac?

Plac Francyska. Padkowaŭ zmuleny huk.
Kalarowaja cehła wiakoŭ.
Plac Francyska, na niebie niedzie twoj bruk.
Ty - tajemnaja zbroja dziadoŭ.

Doŭhi czas, kali ciabie nie było,
Ja chadziŭ da kram, ja kuplaŭ wino,
Kab niejak żyć.
Niechta znoŭ kachaje żonak siabroŭ,
Szyby bje ŭnaczy dy szukaje ŭciech.
Dyk naszto jamu toj plac?

Plac Francyska...

**Kali imperyja źniknie**

Dzie znajści ciabie? U horadzie zmrok.
Ja nie pajdu tudy, ratuj mianie Boh.
U zrujnawanaj chacie ja czytaju ad ciabie list.
Na papiery słowy, twaich kul na dwary wisk.
Każasz ty, pryjdzie czas,
Adpacznie kożny z nas.
Bojki dy pahromy, nie czakaj zamieżnych haściej.
Hoład dy chwaroby zabiwajuć naszych dziaciej.

Kali imperyja źniknie jak dym,
Dzie budziesz ty i z kim?
Czyju trymajesz ty zbroju, moj brat?
Jaki natoŭp - twoj urad?

Szto budzie potym tut, karczma ci turma?
Za padarunak twoj padziaki niama.
Zality krywioju barykady u maich snach.
Skryżawańni wulic, wajny hramadzianskaj żach.
Każasz ty, pryjdzie czas,
Adpacznie kożny z nas.
Ciahniki na poŭnacz pobacz ź ciahnikami na ŭschod

Rejsy da kurortaŭ, dzie aharodżaju drot.

Kali imperyja źniknie jak dym...

**Irżawyja dni**

Na niebie irża, kali ja hladžu na nieba.
Szukaju ciabie, na dziawoczych waczach irża.
Na soncy irża, kali ja hladžu na sonca.
Szukaju ciabie, dyj na twarach kabiet irża.

Haspadary krainy -
Nawoszta wy mnie, nawoszta ja wam?
Sum swoj adczuwaju ja sam,
Tolki ja sam.

Na sercy irża, kali ja ciabie kachaju.
Na zorach irża, ja padobny na koler zor.
Szukaju ciabie, dyj wiecier irżawy nad nami.
Kachaju ciabie, dyj pachnie irżoj czabor.
Haspadary krainy...
Irżawyja dni. Dyj noczy niby z żaleza.
Irżawyja dni. U pawietry stalowy pach.
Irżawyja dni. Krywi czaławieczaj koler.
Irżawyja dni. Dyj zdarowy metał u snach.
Haspadary krainy...

**Jerusalim**

U biełym adzieńni sustrakaj mianie tut.
Daj spakoj.
Skroź wartu na wieżach ja prajszoŭ,
Skroź kanwoj.

Jerusalim - pa-za taboj.
Jerusalim - pa-za życciom , pa-za szkłom,
Szto twaryŭ moj zrok.

Pa szaraj hadzinie pachawali ciabie.
Tak było.
Ty wiedajesz zaraz, szto zaŭždy
Budzie tak.

Jerusalim - pa-za kryżom.
Jerusalim - pa-za saboj, pa-za mnoj.

Hladzi - życcio –
Dźwie szklanki wina,
Sałodkaja płyń.

Woś tysiacza zołkaŭ za adzinuju nocz.
Woś życcio.
Wiadzie mianie niechta skroź Twoj twar
Da Ciabie.

Jerusalim - woczy twaje.
Jerusalim - wusny twaje, hołas twoj.

Hladzi - życcio –
Dźwie szklanki wina,
Sałodkaja płyń.

**Kraina Doŭhaj Biełaj Chmary**

Kraina Doŭhaj Biełaj Chmary,
My nie rastłumaczym, skul pryjszli.
Ty nie paczujesz naszaj mowy,
Prasiaknutaj pacham ziamli.

My projdziem moŭczki, byccam wiaźni,
By cieni anioła praz carkwu.
My projdziem praz spakusu kachańniem,
Chawajuczy u sercach dryhwu.

Skaczy, durnica!
My atrymali swajo.

Ty streniesz moj waroży pozirk,
Ty nie zrazumiejesz, szto sa mnoj.
Kraina Dohaj Biełaj Chmary
Nikoli nia budzie twajoj.

Skaczy, durnica!
My atrymali swajo.

Kraina Doŭhaj Biełaj Chmary...

**Kraina ŭ kratach**

Raka, szto ciacze la karczmy,
Dy kala mosta - mur.
Trynaccać litar na im.
U litarach - smur.
Major, szto toj nadpis czytaŭ,
Adyjszoŭ ni z czym -
Moża, mieŭsia na ŭwazie New York?
Mo starażytny Rym?
Kraina u kratach! Kraina u kratach!
Sztodnia farbawali mur,
Kab toj lozunh źnik,
Bo jon byŭ patrebny ŭsim
Jak u bocie ćwik.
Sztodnia pracawaŭ malar,
Pracawaŭ darma.
Nadpis baczny byŭ, jak i raniej,
Dy rahatała karczma.
Kraina u kratach! Kraina u kratach!
Raka, szto ciacze la karczmy,
Dy kala mosta - mur.
Zaraz czornaja plama na im,
Pad plamaj toj - smur.
Mauczać złyja słowy pad joj
Użo szmat hadoŭ,
Ale-ż kożny wiedaje, szto
Pad czornaj plamaj iznoŭ
Kraina u kratach! Kraina u kratach!

# MROJA

**Ja - rok-muzykant**

Ja nie lublu szykoŭnych balaŭ,
Ja nie prychilnik estectwa.
Mnie niedaspadoby duchoŭny handal
I talent, jaki pradajecca.

Ja nie lublu sałodkich śpiewaŭ
I piesień restarannych waryjant.
Ja - z tych, chto nie szkaduje swaje nerwy,
Ja - rok-muzykant.

Ja rok-muzykant starych tradycyj.
Heta nie pryzwańnie, heta pazycyja.

Ja suprać błakitnych i załatych,
Ja nie wynoszu pustyja woczy.
Wiedajcie, ja nie z tych,
Chto żywie pa zakonach noczy.

Chaj praŭda zamienić pawietra,
Hitara skryhocza jak tank.
Ja sabie zastanusia wierny,
Ja - rok-muzykant.

Ja rok-muzykant starych tradycyj...

Ja nie szukaju sławy tannaj,
Ja piaju nie dla hroszaj.
Ja chaczu zastacca sałdatam,
Sałdatam ciażkaha roku.

I niszto ŭżo mianie nie źmienić,
Dumać i hrać budu tolki tak!
Ja chaczu pamierci na scenie.
Ja - rok-muzykant.

Ja rok-muzykant starych tradycyj...

**Ziamla**

Woś maja ziamla pad nahoj biażyć,
Woś maja ziamla u śniahoch lażyć,
Zakawanaja lutym choładam,
Paduładnaja czużym wołatam.

Woś maja ziamla zapawietnaja,
Zaniadbanaja, nieprykmietnaja,
Choć bahataja na malitwy
A krywioju szczodra palitaja.

A syny jaje nieźliczonyja,
Bieskłapotnyja, niechryszczonyja
Nie turbujucca, nie chwalujucca,
Tolki pić dy spać nie lanujucca.

Jak paczniesz śpiawać - nie abudziacca.
Jak paczniesz kryczać - nie daczujucca.
A spytajesz pić - nie daduć wady.
A zachoczasz biehczy - niama kudy.

Ja idu napierad pa ŭzboczynie,
Ja piaju swaje pieśni zmrocznyja,
A ziamla maja pad nahoj biażyć,
A ziamla maja u śniahoch lażyć.

## Фэстываль Музыкі Маладой Беларусі

## Басовішча '92

1. Даю свой голас на:

.................................................................................

2. Маё імя й прозьвішча:

.................................................................................

